# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 28 (646) Год XIII 14 ЛІПЕНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.

На Дуброўпчыне. Фота: Ул. Паўлючук

# ЯК ЖЫВУЦЬ У ПЯНЬКАХ

Знаходзячыся ў Пяньках, нельга не наведаць Янку Азяблу. Гэта шчыры наш сябра. Член Праўлення аддзела і член праўлення многіх іншых грамадскіх і палітычных устаноў. Коратка гаворачы, — гэта грамадскі чалавек. Пры тым — што найважнейшае — добры з яго гаспадар.

— Як вам жывецца, сябра Азябла? — пытаю.

— На жыццё не наракаю, — гаворыць ён. — Толькі работы чартоўскі многа.

— А скажыце па шчырасці: каб вам зараз нехта запрапанаваў пасаду ў горадзе, скажам, з трохтысячнай месячнай заработнай платай — пайшлі б?

— Не, — рашуча адказвае гаспадар. — А навошта мне гэты гарадскі хамут? Я прывык да вясковай свабоды. А ў горадзе патрабуюць жалезнай дысцыпліны. Я працаваў, дык ведаю. Заўсёды трэба глядзець на гадзіннік, каб, барані божа, не спазніцца, каб не задоўга і не закаротка адсядзець свае «гадзіны».

— Але тры тысячы злотых у месяц! — прыпамінаю.

— А што гэта было! — усклікае гаспадар. — Я за адну толькі кантрактаваную траву бяру ў год 80 тысяч злотых. Калі разбіць гэтыя трошы на адзельныя месяцы, маю даходу больш як у два разы столькі, колькі вы мне прапануеце!

Ды ад сябе дадам, што кантрактацыя травы, хаця асноўная, але не адзіная крыніца прыбытку пяньkоўскіх гаспадароў. Не менш важнымі крыніцамі з'яўляецца кантрактацыя цялят, свіней і дастаўка малака. Для прыкладу, пяньkоўскі гаспадар Цыванюк ад 8-мі сваіх дойных кароў прадае ў дзень звыш 70 літраў малака, а па 30—40 літраў малака ў дзень адстаўляе амаль кожны тутэйшы гаспадар.

У пяньkоўцаў многа балота, і таму так высока развіта жывёлагадоўля. Адна бяда, што пяньkоўскія сенажаці яшчэ поўнасцю не загаспадараваны.

— Для суседняга ПГР-а, — кажа солтыс вёскі Аляксандр Ваўрынюк, — была праведзена меліярацыя. Ды меліяранты так пакапалі равы, што вада залівае нам балота. Няма магчымасці, каб на сенажаці прымяніць трактарную тэхніку. А ў ручную... эх, — солтыс пагардліва махнуў рукою, — што за работа! Мы ўжо адвыклі ад сярпа і касы.

Сапраўды, у пяньkоўскай міжгуртkоўскай базе знаходзіцца зараз аж 26 трактараў. Такая колькасць тэхнікі не толькі аблягчае назойлівую сялянскую працу, але таксама неяк аўтаматычна ўводзіць у вясковыя ўмовы новы элемент грамадскага характару. Жыхары вёскі хутка спецыялізуюцца. Тэхніка патрабуе механікаў, брыгадзіраў, трактарыстаў, загадчыкаў, рахункаводаў. Выводзяцца яны больш за ўсё са «сваіх», мясцовых жыхароў. Вось для прыкладу: Сяргей Ваўрынюк — гаспадар на 13 гектарах зямлі — працуе адначасова трактарыстам. Кажа, што ў месяц зарабляе па 2 тысячы злотых і дасканала паспявае даглядзець уласную гаспадарку.

Гэтую праблему, праблему ўплыву тэхнікі на грамадскае жыццё вёскі прапаную аднак вучоным-сацыёлагам, а сам вяртаюся да болей канкрэтных спраў.

Думаю вось: калі да пяньkоўцаў не падкапаешся грашыма, дык можа падыйсці да іх з культурнага боку?

— У горадзе, — гавару, — кіно, тэатр...

— А ў нас амаль у кожнага ў хаце свае і кіно, і тэатр, які толькі хочаш, і польскі, і беларускі, і рускі.

Тут на выручку сябру Азяблу прыходзіць Сяргей Ваўрынюк. Ён быў першым тэлевізаваным гаспадаром у Пяньках. Купіў сабе гэтую каштоўную чарадзейскую скрыначку, калі ў вёсцы не было яшчэ электрычнасці. Атрымалі яе ў 1967 годзе.

— Паставіў я гэтую скрыначку ў ганаровым кутку — пад іконамі, — кажа ён, — і ўяўляў сабе дзівы розныя. А калі ў нашыя хаты паплыў электрычны ток, зазіхацела і мая тэлевізійная скрыначка.

У Пяньках вельмі добра відаць і чуваць дзве праграмы: варшаўская і мінская.

— І святліца ў нас незадоўга будзе свая, — дадае Янка Азябла. — Прасторная яна. Мы яе грамадскім чынам пабудавалі.

— Быў у вас калісьці актыўны мастацкі калектыў, — гавару.

— Быў, але, халера, разляцеўся, — злуецца селянін, — арганізатара не хапіла. Але калі закончым пабудову святліцы, а гэта ўжо хутка, дык будзе кіраўнік і будзе калектыў. У нас спевакоў і артыстаў многа. Нашая моладзь сядзіць на зямлі, разам з бацькамі, хлеб вырошчвае і мяса гадуе.

— Выбачайце за шчырасць, сябра Азябла, — гавару, — танарыцеся сваім даходам, а хатка у вас старэнькая...

— Дык чаго вы на хату! Паглядзіце вы на хлявы, на клуню! У нас амаль усе так робяць. Найперш гаспадарчыя будынкі, месца для жывёлы, тэхнікі і плёну, а потым для сябе. Гляньце, вунь сусед Аляксандр Амброжэй клуню сабе якую пабудаваў!

Сапраўды, клуня, бы фабрычны цэх, — 22 метры даўжыні і 9 метраў шырыні.

— Тут і гараж адначасова будзе, — кажа гаспадар.

— А што, трактар сабе купляеце, ці як?

— Навошта мне трактар. Яго дастану я ў гуртку. А сабе хачу купіць легкавую аўтамашыну. Толькі цяжка дастаць. Прыдзел трэба.

Дык бачыце, вось як жывуць людзі ў Пяньках. Пра пакупку аўтамашын і аб тэлевізары клапоцяцца. І гэта ў той час, які калісьці называлі ў нас галодным дажніўным перыядам.

**Віктар Рудчык**

# БГКТ

### З НАГОДЫ ГАДАВІНЫ

Ужо мінула 10 год з таго часу, калі гарадскі гурток беларускага таварыства ў Беластоку на сваім сходзе першы раз выбраў праўленне аддзела. З гэтай нагоды 29-га чэрвеня гарадскі аддзел БГКТ арганізаваў акадэмію, якою адзначыў дзесятую гадавіну сваёй дзейнасці. На ўрачыстым вечары старшыня аддзела Кастусь Масальскі расказаў аб працы БГКТ у горадзе Беластоку на працягу мінулых дзесяці год, аб людзях, якія грамадскай працай памнажалі дасягненні аддзела.

Пасля даклада старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Вінцук Склубоўскі за ахвярную працу ў разгортванні культурнай дзейнасці ўручыў дыпломы наступным асобам: Кастусю Масальскаму, Уладзіміру Навіцкаму, Уладзіміру Куршэлю, Васілю Літвінчуку, Рыгору Скарынкевічу, Кастусю Хлябічу, Кіры Радзіцкай, Анне Амброжэй і Зоі Ясінскай.

Праўленне гарадскога аддзела ад даўжэйшага часу намагалася арганізаваць мастацкі калектыў. Раней было пастаноўлена, што на дзесятую гадавіну аддзела мастацкая частка юбілейнай акадэміі павінна быць забяспечана сіламі аддзела. Дзякуючы арганізатарскай працы, утварыліся два невялікія самастойныя мастацкія калектывы: дэкламатарска-эстрадны пад кіраўніцтвам Міколы Лобача і харавы пад кіраўніцтвам настаўніцы Людмілы Панько.

Першы складаецца з 9 асоб. Прыняў ён назву «Самасейка», (Самасейкі» выступалі першы раз на фестыне БГКТ у Рыбаках). У другім налічваецца 11 асоб. Гэтыя калектывы выступілі ў мастацкай частцы вышэй успомненага ўрачыстага вечара. «Самасейкі» дэкламавалі вершы Алеся Барскага і Віктара Шведа, а таксама выканалі некалькі песень. Харавая група (выступала яна ўпершыню) спявала беларускія народныя песні. Канферансье была Насця Бабулевіч. Урачыстасць закончылася танцавальнай вечарынай.

### ЭСТРАДА «ЛЯВОНІХА»

Эстрада ГП БГКТ «Лявоніха» стала вядомай на Беласточчыне. Існуе яна ўжо больш шасці год і за гэты час дала яна ўжо каля 16 соцень канцэртаў.

Цяпер «Лявоніха» складаецца з 7-мі асоб: Юрка Гаўрылюк (кіраўнік)' Марыся Мароз, Іван Блізнюк, Люба Блізнюк, Лена Кабац, Тэрэса Купрыянава (усе гэта салісты) і Станіслаў Станкевіч — акампаніятар.

У ліпені члены эстрады выкарыстоўваюць свой водпуск, а ад жніўня зноў пачнуць даваць у кожны месяц па 18—20 канцэртаў.

### ЧЛЕНСКІЯ СКЛАДЧЫНЫ

Адным з элементарных абавязкаў члена кожнай арганізацыі з'яўляецца рэгулярнае аплочванне складчын. Гэтак жа сама і ў беларускім таварыстве; аплочванне складчын лічыцца сувяззю члена са сваёй арганізацыяй, яго свядомасцю абавязкаў. Складчыны ў БГКТ невялікія, бо толькі 12 зл. у год. Аднак многія члены БГКТ занядбоўваюць іх аплочванне. У многіх гуртках БГКТ на аплочванне членскіх складчын зусім не звяртаецца ўвага. Скарбнікі ў гуртках зусім лёгкадумна адносяцца да сваёй функцыі, а старшыні гуртkоў не напамінаюць аб патрэбе выконвання гэтага абавязку.

Ёсць таксама многа членаў БГКТ, а таксама і гуртkоў, якія заўсёды на пачатку года аплочваюць складчыны. Напрыклад, у Гайнаўскім павеце члены БГКТ у Ляшуках, Грузцы і Янове ўжо даўно маюць аплочаныя складчыны ў 100%, Гайнаўскі гарадскі гурток аплаціў складчыны ў 70%. Даволі добра аплочваюцца складчыны і ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку.

### РАЗВІТАЛЬНАЯ ВЕЧАРЫНА

Харавы калектыў Бельскага аддзела БГКТ дабіўся высокага мастацкага ўзроўню і карыстаецца вялікай папулярнасцю ў сваім павеце. Першым мастацкім кіраўніком хору быў Аляксандр Лукашук. Пасля хор падрыхтоўваўся да канцэртаў і выступаў пад кіраўніцтвам Юркі Шурбака. У сувязі з тым, што Юрка Шурбак адышоў на іншую працу і не мае магчымасці працаваць далей з хорам, Бельскі аддзел БГКТ даверыў мастацкае кіраўніцтва свайму першаму дырыжору Аляксандру Лукашуку. 29-га чэрвеня адбылася развітальная вечарына хору са сваім дагэтуляшнім мастацкім кіраўніком.

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ФРАНЦЫЯ ПАСЛЯ ВЫБАРАЎ

Адзін з амерыканскіх публіцыстаў, каменціруючы вынікі выбараў у Францыі, сцвердзіў: французы вырашылі, што лепш ужо дэ Голь, чым ісці на рызыку нязнанага.

У гэтым сцвярджэнні ёсць многа праўды. Неабходна толькі дадаць, што гэта «нязнанае» ўрадавая прапаганда, якая шырока карыстаецца недаступнымі для левай апазіцыі сродкамі масавай прапаганды (тэлевізія, радыё), старалася паказаць у як найчарнейшых колерах.

І нельга запярэчыць, што вынікаў не было. Значная колькасць выбаршчыкаў, напалоханых «камуністычнай небяспекай», пагрозай хаосу і амаль грамадзянскай вайны, будучы пад уражаннем анархісцкіх выбрыкаў на вуліцах Парыжа — далася пераканацца.

Галісты ў выбарах атрымалі большую колькасць мандатаў, чымсьці мелі перад выбарамі. Пэўную колькасць мандатаў страцілі камуністы і федэрацыя левых. Характар французскай выбарчай ардынацыі паказвае на тое, што страта мандатаў непрапарцыянальна большая, чым страта галасоў выбаршчыкаў: камуністы, за якіх галасавала 20% выбаршчыкаў, у параўнанні да 23% у папярэдніх выбарах, патрацілі больш чым палову мандатаў у параўнанні да 1967 года.

Усе аднак згодны, што перамога галістаў у выбарах не вырашыла ніводнай з эканамічных і грамадскіх праблем, перад якімі стаіць Францыя.

### МІЖНАРОДНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ПА АДУКАЦЫІ

У Жэневе адкрыта канферэнцыя выдатных дзеячаў у галіне асветы з больш чым 90 краін свету. Гэта ўжо 31-ая штогадовая канферэнцыя.

Удзельнікі канферэнцыі, арганізаванай Міжнародным бюро па пытаннях асветы (МБА) і ЮНЕСКО, разгледзяць праблемы выхавання моладзі ў духу ўзаемаразумення паміж народамі, абмену вопытам у развіцці адукацыі ў асобных краінах у 1967—68 навучальным годзе.

Пасля канферэнцыі, якая адбывалася да 10 ліпеня, адбудзецца 45-е пасяджэнне савета МБА.

### «ДЗВЕ ТЫСЯЧЫ СЛОЎ»...

...гэта загаловак заявы, падпісанай 70-цю віднымі асабістасцямі грамадскага, навуковага і нават спартыўнага жыцця Чэхаславакіі, апублікаванай некаторымі газетамі ЧССР. Кіраўніцтва партыі і ўрада адмоўна ацанілі гэтую заяву. Сказана між іншым, што міма добрых намераў асоб, падпісваючых дакумент, гэтая заява распальвае экстрэмісцкія тэндэнцыі, якія могуць быць пагрозай для працэсу адновы.

### ПАДРЫХТОЎКА ДА НАРАДЫ

Каменціруючы падрыхтоўку да склікання нарады камуністычных і рабочых партый, якая адбудзецца ў лістападзе г.г. у Маскве, «Праўда» сцвярджае: «Імкненне да аб'яднання рэвалюцыйных антыімперыялістычных сіл з'яўляецца адной з найбольш характэрных рыс сучаснай міжнароднай палітычнай сітуацыі». У пасяджэнні рабочай групы прынялі ўдзел прадстаўнікі большасці кампартый

## БССР

### СЭУ

У Мінску адбылося пасяджэнне Пастаяннай камісіі СЭУ па выкарыстанню атамнай энергіі ў мірных мэтах. Кіраўнік савецкай дэлегацыі **А. М. Петрасьянц** сказаў карэспандэнту Беларускага Тэлеграфнага агенцтва:

— Перш за ўсё трэба адзначыць, што Мінск не выпадкова выбран месцам правядзення 14-га пасяджэння Пастаяннай камісіі СЭУ. Для гэтага ёсць вельмі важкія падставы і перш за ўсё тое, што сталіца Беларусі стала адным з важных навуковых цэнтраў СССР, у тым ліку атамнай навукі і тэхнікі, якая хутка развіваецца.

### СІДАРОВІЧ

У час 52-й сесіі Міжнароднай канферэнцыі працы ў Жэневе выступіў дэлегат ад кіраўнікоў прадпрыемстваў БССР **І. Сідаровіч.**

— ...Толькі там, дзе палітыка і эканоміка дзяржавы, — сказаў І. Сідаровіч, — цалкам і паслядоўна пастаўлены на службу чалавеку, магчыма эфектыўнае ажыццяўленне асноўнага права чалавека — права на працу».

### МІНЕРАЛЬНЫХ

На Беларусі ствараецца магутная індустрыя мінеральных угнаенняў. На поўную магутнасць працуюць два калійныя камбінаты ў Салігорску і Гродзенскі азотнатукавы завод, завяршаецца будаўніцтва трэцяга калійнага камбіната ў Салігорску і суперфасфатнага завода ў Гомелі. Цяпер Беларусь дае 12 працэнтаў вытворчасці мінеральных угнаенняў у СССР, і аж адну трэцюю калійных угнаенняў.

### ЛІНІЯ

У пастаянную эксплуатацыю здадзена лінія электраперадач Алекшыцы — Бераставіца. Яна надзейна забяспечыць электраэнергіяй калгасы, саўгасы і прамысловыя прадпрыемствы Бераставіцкага, Свіслацкага і Гродзенскага раёнаў.

З пачатку пяцігодкі на Гродзеншчыне пракладзена звыш пяці тысяч кіламетраў ліній электраперадач.

### АРХЕАЛАГІЧНАЙ

Дзевяць атрадаў увайшлі ў састаў новастворанай пастаяннай археалагічнай экспедыцыі Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР. Заходнедзвінскі і верхненёманскі атрады збяруць матэрыялы аб каменным веку ў басейне Заходняй Дзвіны і правядуць раскопкі ў Слоніме і сяле Гальшаны. Дзве групы вучоных зоймуцца вывучэннем старажытнасцей Тураўскай і Полацкай зямель. Сумесна з дзяржаўным музеем БССР будуць прадоўжаны раскопкі ў Заслаўі.

### «БЕЛАРУСЬ»

На беразе Нёмана адбылося свята працы работнікаў саўгаса «Беларусь» Гродзенскага раёна, прысвечанае 50-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі.

З прамовай выступіў дырэктар саўгаса **П. Сушкевіч.**

Святы працы адбыліся таксама ў калгасе «Новы шлях», саўгасе «Іванаўка» і іншых гаспадарках Гродзеншчыны. (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ГАСПАДАРЧЫ ПРАГРЭС

Сеймавая камісія Гаспадарчага плана, бюджэту і фінансаў разгледзела выкананне заданняў, планаваных на І паўгоддзе 1968 года. Ацэнена таксама датагачасная рэалізацыя пяцігадовага плана і зроблены вынікаўшыя з гэтай ацэнкі вывады на 1969—1970 гады. Як вынікае з інфармацыі, якую на пасяджэнні склаў старшыня камісіі планавання пры Радзе Міністраў Стэфан Ендрыхоўскі, гаспадарка краіны ў І паўгоддзі характарызавалася высокай дынамікай развіцця прамысловай прадукцыі, інвестыцый і будаўніцтва, а таксама прадуктыўнасці працы. Спрыялі гэтаму ў высокай меры прадукцыйныя абавязацельствы, прынятыя ў гонар V З'езда партыі. Прамысловая прадукцыя ўзрасла прыблізна на 9 працэнтаў (у гадавым плане прадбачвалася развіццё на 7,1 прац.). Вышэйшы, чым прадбачана, быў таксама ўзрост фонду заработкаў. Было гэта вынікам рэгуляцыі заработкаў, перавыканання плана прадукцыі і плана павышэння колькасці працоўных, а таксама ўзросту прадуктыўнасці. У сувязі з тым наступіў хуткі ўзрост абаротаў у гандлі. Узраслі яны на 10,8 прац., а план прадбачваў узрост толькі на 5,7 прац.

Ацэньваючы датагачасную рэалізацыю пяцігадовага плана, сеймавая камісія сцвердзіла, што план прадбачваў сярэдні гадавы ўзрост прамысловай прадукцыі ў першыя тры гады — на 6,8 працэнта, тым часам сапраўдны тэмп узросту дасягнуў 8 прац. Пры тым значна хутчэй узрастала прадукцыя сродкаў прадукцыі, чым сродкі спажыцця. У вывадах сеймавая камісія сцвердзіла неабходнасць большага ўзросту экспарту, узросту прадукцыі хадлівых вырабаў; пэўнага змяншэння выдаткаў на інвестыцыі, так, каб іх размеры не перакрочвалі рэальных магчымасцей гаспадаркі, прысяпшэння ўзросту прадуктыўнасці працы і такое рэгуляванне ўзроўнем колькасці працоўных, каб надта не перакрочыць паказальнікаў, прынятых у пяцігадовым плане.

### КАМАСАЦЫЯ

Пачаліся інтэнсіўныя працы над рэалізацыяй сеймавай пастановы аб камасацыі. Работы гэтыя будуць насілены пасля ўборкі збожжа, што створыць лепшыя ўмовы працы калектывам геадэзістаў. Недахоп геадэзійных кадраў не дазваляе на правядзенне камасацыі адразу ва ўсёй краіне. Таму камасацыйныя працы ў першую чаргу праведзены будуць у Беластоцкім, Люблінскім, Варшаўскім і Лодзінскім ваяводствах.

### ЗАКЛІК

Ваяводскі камітэт партыі ў Познані апублікаваў заклік да ўрачыстых святкаванняў 50-ай гадавіны Велькапольскага паўстання. У закліку між іншым чытаем: **«У 50-ую гадавіну Велькапольскага паўстання натужнай працай ва ўсіх галінах нашай гаспадаркі, культуры і асветы даем найлепшы прыклад сучаснага патрыятызму, прадаўжаем найбольш высакародныя, прагрэсіўныя традыцыі нашых продкаў».** (п)

## ВАЯВОДСТВА

### У ГОНАР V З'ЕЗДА

Жыхары ГРН Васількова Беластоцкага павета працай грамадскім чынам вітаюць V З'езд ПАРП. Гаспадары вёскі Юраўцы працавалі пры нівеліроўцы школьнага пляца і пабудове новай дарогі, якою даязджаюць тамтэйшыя гаспадары да сваіх лугоў. У працы ўдзельнічала 60 жыхароў вёскі. 48 гаспадароў з вёскі Студзянкі працавала пры пабудове дарогі, якая спалучае іх вёску з вёскай Дамбрувкі.

### ГАРАДСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ПАРП...

...адбылася ў Бельску Падляшскім. Падсумавана на ёй праца Гарадскога камітэта за тэрмін яго паўнамоцтваў. На канферэнцыі паказана, што за апошнія пяць месяцаў гарадская партарганізацыя павялічылася на 79 кандыдатаў, калі за ўвесь справаздаўчы перыяд Камітэта атулам прынята 201 кандыдатаў партыі.

Канферэнцыя выбрала новы Гарадскі камітэт у складзе 23 асоб. Першым сакратаром застаўся Васіль Грыгарук.

### ЭКЗАМЕНЫ НА ВСН

Як мы ўжо інфармавалі, у Беластоку створана Вышэйшая настаўніцкая школа як філіял Варшаўскага ўніверсітэта. У першым тэрміне заявы на ВСН склала 289 кандыдатаў. Найбольш папулярнай аказалася руская філалогія, дзе старалася 84 асобы, на польскую філалогію з гісторыяй — 90 кандыдатаў, на матэматыку з фізікай — 61, на фізіку з хіміяй — 35, а на пачатковае навучанне — 29 асоб. Каля 90% кандыдатаў паходзіць з Беластоцкага ваяводства.

Экзамены на гісторыю з грамадзянскім выхаваннем адбудуцца ў канцы жніўня. У другім тэрміне прадбачваюцца дадатковыя экзамены і на іншыя кірункі. Кандыдаты, якія здавалі экзамены на іншыя вышэйшыя школы і не былі прыняты з прычын недахопу месцаў, могуць быць прыняты на ВСН, калі зноў здадуць экзамены.

Абсальвенты трохгадовай Вышэйшай настаўніцкай школы будуць працаваць у 8-гадовых пачатковых школах.

### ПЕРШЫЯ АБСАЛЬВЕНТЫ ВСІнж.

Стацыянар беластоцкай ВСІнж. выпусціў першых сваіх абсальвентаў. Пакуль што гэта толькі выпускнікі механічнага факультэта. Дыпломны экзамен на электрычным факультэце адбудзецца ў верасні.

29 асоб атрымала дыпломы інжынераў спецыяльнасці тэхналогія пабудовы машын і канструкцыі станкоў.

### МІНІСТР КУНІЦКІ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Тадэуш Куніцкі, міністр лёгкай прамысловасці, у мінулым тыдні пабываў на Беласточчыне. Міністр у прысутнасці прадстаўнікоў ваяводскіх улад абмеркаваў справы мадэрнізацыі і разбудовы прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці ў Беластоцкім ваяводстве. Міністр у суправаджэнні сакратара ВК Сяргея Рубчэўскага, І сакратара КМ Юзэфа Трусевіча і І сакратара КП Аляксандра Камінскага наведаў некаторыя беластоцкія прадпрыемствы. (ак)




**NIEDZIELA, 14.VII.**

8.25 Program dnia. 8.30 Reportaż z Ukraińskiego Muzeum Sztuki. 9.05 „Król oszustów" — film fab. węg. cz. II. 10.00 „Przypominamy, radzimy". 10.10 PKF. 10.20 „Kurier królewski" — film („Przygody trzech muszkieterów"). 11.00 „Wielki Koncert w Porcie" poświęcony Tygodniowi Morza Bałtyckiego (Berlin). 12.00 Wiadomości dziennika. 12.10 „W starym kinie". 13.10 „Artyści areny" — film (odc. VI). 13.35 „Wielka gra" — teleturniej. 14.30 „Przeboje 68" — słowackie pieśni i tańce. 15.30 „Przemiany". 16.00 Czwórmecz w lekkiej atletyce — ZSRR, NRD, CSRS, PRL (Leningrad). 17.20 „Piórkiem i węglem" (Kraków). 17.45 „Polska pieśń historyczna" — program muzyczno-poetycki. 18.25 „Niedziela w Dańcu" — tv rajd reporterski po Ziemi Opolskiej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 Festiwal Akademickiej Młodzieży Artystycznej „FAMA 68". 20.50 „Przygody kapitana Blooda" — film fab. USA. 22.15 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 15.VII.**

15.15 Koncert pieśni białoruskich (Mińsk). 16.00 Przerwa. 17.10 Program dnia. 17.15 Wiadomości dziennika. 17.20 „Tramp" — magazyn turystyczno-krajoznawczy. 17.40 „Narodziny tańca" — film TV radz. cz. II. 18.10 „Wakacje dla wszystkich dzieci". 18.35 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Na Śląskim Wawelu" — TV rajd reporterski po Ziemi Opolskiej. 20.40 V TV Festiwal Teatrów Dramatycznych: L. Kruczkowski — „Niemcy". 22.10 „Klaps" — magazyn aktualności filmowych. 22.40 Dziennik TV.

**WTOREK, 16.VII.**

10.00 „Nieprzyjaciel u progu" — film fab. radz. 11.30 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.05 „Teleferie": „Turniej Żółtej Żyrafy". 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.35 „Rossana Schaffino" („Sylwetki X Muzy"). 19.00 „Od Bałtyku do Oceanu Spokojnego". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05Program estradowy. 20.50 „Naukowe lato" — program Redakcji Publicystyki Młodzieżowej. 21.20 „Pod niebem Paryża" — film fab. fr. 23.10 Dziennik TV.

**SRODA, 17.VII.**

10.00 „Tajemnica szyfru" — film. fab. rum. 11.20 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Ula i gwiazdy". 17.25 PKF. 17.35 „Nie tylko dla pań". 18.00 Film. 18.15 „Jezioro Bajkał" — film radz. 18.35 Magazyn Medyczny. 19.10 Przemówienie Ambasadora Koreańskiej Republiki Lud.-Dem. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Poligon". 20.35 „Pieśni Maquis". 21.05 „Światowid". 21.35 „Posłanie z róż" — film. 22.25 Dziennik TV.

**CZWARTEK, 18.VII.**

10.00 „Zakochane duchy" i „Kłopotliwa nagroda" — filmy TVP. 10.55 Przerwa. 17.05 Program dnia. 17.10 Wiadomości dziennika. 17.15 „Paryż, 14 lipca" — film („Dzień pokoju"). 17.50 „Telekram". 18.00 „Wietnam — wiosna 1968". 18.15 „Polskie puszcze" — reportaż. 18.45 Gra Polska Kapela pol dyr. F. Dzierżanowskiego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Trybuna Telewizyjna". 20.35 „Na tropie policjantów" — film fab. ang. 22.05 „Tysiąc sześćset kilometrów na północ od Warszawy". 22.35 Dziennik TV.

**PIĄTEK, 19.VII.**

10.30 Dla dzieci: „Podróż w krainę bajki" (Moskwa). 11.05 „Na tropie policjantów" — film fab. ang. 12.35. Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 „Teleferie". 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.35 „Karykatury NOTA". 18.45 „Czwarta zmiana". 19.20 Dobranoc. 19.35 Dziennik TV. 20.05 „Dialogi historyczne". 20.35 V TV Festiwal Teatrów Dramatycznych. 21.55 „10 minut recenzji". 22.05 „Próby" — miesięcznik konsumenta. 22.30 Dziennik TV.

**SOBOTA, 20.VII.**

10.00 „Agata, autostop i mężczyźni" — film fab. fr. 11.30 Przerwa. 15.55 Program dnia. 16.00 Sprawozdanie z Międzynarodowych Zawodów Lekkoatletycznych. 17.15 Wiadomości dziennika. 17.25 Program Tygodnia. 17.55 „Artyści areny" — film odc. VII. 18.25 „Ludzie z tablicy" — rep. filmowy. 18.55 „Wieczorne rozmowy". 19.20 Dobranoc. 19.30 „Monitor". 20.10 „Ewa i sceny małżeńskie" — film („Ewa"). 20.40 OLSZTYŃSCY LAUREACI: „Kabaret pod Egidą", „Bizony". 21.40 Dziennik TV. 21.55 Wiadomości Sportowe. 22.05 „Agata, autostop i mężczyźni" — film fab. fr.




**Piątek, 12 lipca**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla przedszkolaków i uczniów z młodszych klas. Cuda przyrody. 8.30 Na polach kraju 9.00 Festiwal filmów poświęconych 50-leciu komsomołu. 10.30 Reforma ekonomiczna w realizacji. 11.00 Niewiarygodne przygody Marka Piegusa. Film polski seria V. 15.00 Nowiny. 15.10 Program. 15.15 Kompozytorzy dzieciom. 15.45 „Po waszej prośbie". Koncert. 16.30 „5+2" Tygodniowy przegląd. 17.00 Klub kinopodróżnika. 18.00 Tereadory z Wasiukowki — film. 18.45 Antrakt muzyczny. 19.00 Sztafeta nowin 20.00 Łaciate opowiadania — film. 21.45 Tylko fakty.

**Sobota, 13 lipca**

6.55 Program. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Nowiny. 8.00 Z dniem urodzin. 8.30 Zdrowie. 9.00 Dla dzieci. „Według rozkazu szczupaka" — film. 10.00 Telewizyjny teatr dla dzieci Pieńcza Manczan. Szkoła zająca. Spektakl kukiełkowy. 10.50 „Niewiarygodne przygody Marka Piegusa" — film polski VI seria. 11.20 Twórczość młodych. Mołdawska republika. 11.50 Morze, słońce, powietrze. 12.15 Historia złotego pantofla — film. 13.30 Do 50 rocznicy BSRR. Białoruska literatura na ekranie część I. 14.30 Program kolorowej telewizji. 18.00 Międzynarodowe spotkania sportowe. 17.15 „Przy kominku". 18.30 Czas. Program informacyjny. 19.00 „Kapitan z Kiolna" — film. 20.55 Nowiny. 21.10 Muzyczny majak.

**Niedziela, 14 lipca**

6.55 Program. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Nowiny. 7.30 Budzik. 8.00 Dzisiaj dzień rybaka. 8.30 Muzeum ukraińskiej sztuki. 9.00 Dla was kobiety. 9.30 Zdolni ludzie — film. 10.50 „Złote ręce". 11.20 „Niewiarygodne przygody Marka Piegusa" — film polski seria VII. 11.50 Program dla żołnierzy i marynarzy. 12.20 Muzyczny kiosk. 12.50 W efirze „Młodość". Przed festiwalem młodzieży i studentów. 13.45 Ekran dla dzieci „Zaczarowany chłopiec". 14.30 Program kolorowej telewizji. 16.00 Międzynarodowe spotkania sportowe. 17.30 Muzyczna szkatułka. 17.55 Piłka nożna, druga część. 19.15 „Siedem dni". Międzynarodowy program. 20.00 Telewizyjny spektakl. 21.30 Tylko fakty. Muzyczny majak.

# НА ПОШЦЕ Ў ЧЫЖАХ

Начальнікам пошты ў Чыжах з'яўляецца **Вера Саенка.** Вялікую ўвагу прысвячае яна распаўсюджванню падпіскі на газеты сярод вясковага насельніцтва. У раёне дзейнасці чыжоўскай пошты разыходзіцца 139 экз. «Хлопскай дрогі», 79 экз. «Газеты Беластоцкай», 50 экз. «Грамада — Рольнік Польскі» і 29 экз. «Нашай Всі». «Ніва» мае тут аж 226 падпісчыкаў.

Начальніку актыўна дапамагаюць пісьманосцы. **Янка Філіманюк,** напрыклад, у сваім раёне дзеяння арганізаваў 140 падпісчыкаў «Нівы», а **Яўген Петручук** — 86.

За такі вялікі ўклад у распаўсюджванне нашага тыднёвіка складаем працаўнікам чыжоўскай пошты падзяку.



**На здымку: Начальнік Вера Саенка.** Тэкст і фота А. К.

# У СТАЛІЦЫ СЯМЯЦІЦКАГА БГКТ

Сталіцай Беларускага Грамадска-Культурнага Таварыства Сямяцічччыны з'яўляюцца Мілейчыцы. Хаця фармальна — гэта звычайная вёска, фактычна ж Мілейчыцы, як і іншыя павятовыя асады — Кляшчэлі, Орля ці Боцькі адыгрываюць істотную ролю ў наваколлі. Гэта ўжо старая, часткова яшчэ царская, а часткова даваенная традыцыя, калі асады гэтыя былі даволі бурлівымі гандлёвымі цэнтрамі. Па традыцыі і зараз многія сяляне за невялікай пакупкаю едуць не ў павятовы горад, а ў бліжэйшую асаду — цяпер проста большую вёску. Бо ў асадзе, таксама па традыцыі, ёсць некалькі істотных для аколіцы ўстаноў: ГС, некалькі крамаў, пошта, гаспода, пункт аховы здароўя, СОП, некалькі рамеснікаў, ды мясцовае грамадскае начальства. Большыя вясковыя асады, у тым ліку і Мілейчыцы, у прынцыпе маюць быць не толькі адміністрацыйнымі ці гаспадарчымі цэнтрамі ў ваколіцы, але таксама цэнтрамі культурнага жыцця гэтай жа вясковай ваколіцы.

Гэта аднак больш за ўсё жаданні. Асады найчасцей маюць вялікія магчымасці ў развіванні культурнага жыцця, якія, як на злосць, не маюць ахвоты выкарыстаць. Так і ў Мілейчыцах. Магчымасці — гэта вялізны будынак, прысвечаны на «месца для культуры», гэта шматлікія кадры настаўнікаў ды наогул інтэлігенцыі, здольнай павясці культурна-асветную дзейнасць, гэта таксама шырокі круг людзей, якія маглі б стаць успрыймальнікамі, скажам, мастацкай самадзейнасці. А вынікі? Быў калісь, памятаю, у Мілейчыцах гэтак званы мастацкі гурток самадзейнікаў. Хутка развеяўся — і добра што развеяўся, бо быў ён на страшэнна нізкім узроўні. Але дрэнна, што на яго месцы не ўзнікла нічога новага. Ды наогул ў Мілейчыцах ад шэрагу гадоў у галіне культуры не дзеецца нічога годнага ўвагі.

У памяшканні Мілейчыцкага аддзела БГКТ адбываецца пасяджэнне праўлення гэтага ж аддзела. Мілейчыцкі аддзел, як вядома, невялікі, усяго 17 гурткоў, бо і беларусаў тут менш, чымсьці ў іншых паветах. У склад мілейчыцкага праўлення ўваходзяць аднак асобы высокага грамадскага рангу: пасол на Сейм — Максім Рудчык, сакратар павятовага камітэта партыі ў Сямяцічах — Ян Плешук, намеснік старшыні Павятовай рады — Мікалай Падлашчык. Вядома, колькі ў іх спраў, ды рознага роду пасяджэнняў. Нягледзячы на гэта, знаходзяць аднак неяк час і на беларускае таварыства.

Збіраецца тады на чарговае пасяджэнне праўленне Мілейчыцкага аддзела БГКТ. На парадку дня звычайныя справы БГКТ — інфармацыя аб дзейнасці гурткоў, справа арганізацыі фестыну, справа збору сродкаў на музей у Белавежы. Справы штодзённай працы арганізацыі, справы, якімі займацца неабходна, але якія не ўносяць у істоце нічога новага ў стан культуры на Сямяцічччыне, ды хаця б у ваколіцах Мілейчыц. Аб гуртках БГКТ, ці аб штогадовых фестынах дыскутавалася, як вядома, дзесяткі разоў і дзесяткі разоў будзе дыскутавацца. Але ад таго ці ў ваколіцы Мілейчыц узнікне два, тры ці нават пяць новых гурткоў, ці яны не ўзнікнуць, не залежыць, як вядома, рэвалюцыя ў культуры. Залежыць яна тым часам ад чаго іншага: ад таго, ці ў Мілейчыцах і іншых вёсках Сямяцічччыны знойдуцца людзі, ахвотныя да культурнай дзейнасці, ці не. І як людзі з высокім грамадскім і палітычным рангам, прыязджаючы ў Мілейчыцы на пасяджэнне аддзела, міма сваіх найлепшых жаданняў, не ўнясуць у асплаую атмасферу асады ажыўлення, пакуль не знойдуцца ў самой асадзе ахвотныя яе ажывіць, так і інструктар мілейчыцкага аддзела сябра Вішанка не ажывіць навакольных вёсак, пакуль там не знойдзецца такіх самых людзей з энтузіязмам. Таму насоўваецца лагічная заўвага, што не менш істотнай справай ад арганізацыйных захадаў з'яўляецца стваранне адпаведнай атмасферы грамадскай дзейнасці, атмасферы, пры якой знікла б выступаўшае часта чаканне на так званую «дапамогу», а фактычна на пагаворачную «манну з неба». Зразумела, апошнюю заўвагу кірую не да Мілейчыцкага аддзела БГКТ і яго сімпатычных дзеячоў, але да шырокага актыву.

**Ул. Паўлючук**



**Włodzimierz Zonn**
**KOSMOLOGIA WSPÓŁCZESNA**
Warszawa 1968, PWN (Omeg a), cena zł 10,00

Аўтар — слаўны папулярызатар астраноміі — прафесар Уладзімір Зонн. Аб сусвеце расказваюць нам светавыя сігналы, якія бягуць з хуткасцю 300 тыс. км/сек. Ад сонца бягуць 8 мінут, але ад некаторых зорак-сонцаў — мільёны год. І самой зоркі, якую мы ў даны момант бачым, можа даўно не быць. Згінула ў шалёным бегу сусвету. А з ёю мо' згінула нейкая высокая цывілізацыя. Бо хто дакажа, што ў сусвеце існуем толькі мы — людзі мудрыя?

**Прырода**

**Jan Żabiński**
**Z ŻYCIA ZWIERZĄT**
T. 4 (1966) i T. 5 (1967), Iskry, cena po zł 40,00

Серыя апавяданняў аўтара аб звярах. Пачала выходзіць у 1964 годзе. Зараз маем ужо 5-ы том гэтых апавяданняў. Усе багата ілюстраваны.

**Геаграфія**

**Czesław Momatiuk**
**SZWAJCARIA**
Warszawa 1967, WP, cena zł 35,00

Выйшлі ўжо томікі, прысвечаныя Чэхаславакіі, Балгарыі, Венгрыі, Югаславіі. Апошнім часам «Ведза Паўшэхна» выдала чарговы інфарматар-праваднік аб Швейцарыі. Гэта адна з цікавейшых турыстычных краін свету. Але, каб паехаць туды, патрэбны дэвізы. Быць, не быць у Швейцарыі, а пачытаўшы кніжачку, адчуеш, як бы і быў. І без дэвізаў.

**Тэхніка**

**Andrzej Mroczek,**
**Henryk Żwirko**
**SAMOLOT W SOSIE WŁASNYM**
Warsza, 1967, Pax, cena zł 20,00

**Eugeniusz Banaszczyk**
**KARUZELA POD GWIAZDAMI**
Wydanie 2, Warszawa, 1968, Iskry, cena zł 40,00

Абедзве кніжкі для маладых і старэйшых гарачых галоў. Паляцець уверх, высока — хто не хацеў бы? Хто не марыць, каб глянуць на зямлю з вышыні? Гісторыя лёту чалавека багатая, фантастычная, усланая адвагай і смерцю. Абедзве кніжкі аб гэтым вядуць свой надзвычай цікавы расказ.

Палёты даўней — яны былі прывілеяй багоў. Палёты цяпер: «Бачыў я ў Савецкім Саюзе на Сібіры сялянак з кошыкамі і збанкамі, сядаючых ў самалёт, каб зрабіць маленькі скок у 400 кіламетраў». Новыя канструкцыі новых самалётаў гнездзяцца ў галовах людзей. Пашукайце, рушце мазгом, можа паляціце... (вл)

**М. ЯНКОЎСКІ**

**БЫЛЫ КАМАНДЗІР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ „У ІМЯ РАДЗІМЫ" БЕЛАСТОЦКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ**

# У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

Зусім інакш складалася гісторыя развіцця партызанскага руху ў Бельскім раёне. Тут было створана некалькі антыфашысцкіх камітэтаў, але самым актыўным з іх быў антыфашысцкі камітэт у вёсцы Снежкі. Яго работай кіраваў камуніст Лявон Смірноў і яго жонка, настаўніца Кацярына Смірнова. Жылі яны на ўскраіне вёскі Снежкі, у старой маленькай хацінцы. Жыхары ведалі Смірновых, паважалі іх. Адразу ж пасля прыходу фашыстаў Смірноў пачаў групаваць вакол сябе надзейных людзей. Снежкаўскі антыфашысцкі камітэт арганізацыйна аформіўся ў пачатку 1942 года, а праз год ён ужо меў шырокую сетку свайго актыву.

16 сакавіка 1943 года ў хаце Вольгі Баранскай Смірновы Лявон і Кацярына правялі сход актыву навакольных з Снежкамі вёсак, на якім старшынёй антыфашысцкага камітэта выбралі Кацярыну Смірнову. Да гэтага камітэтам кіраваў Лявон Смірноў. Пасля сходу Лявон Смірноў заклікаў да сябе ў хату самых надзейных членаў антыфашысцкага камітэта і паведаміў ім аб стварэнні баявой адзінкі — ядра партызанскага атрада. Адразу ж пачалі будаваць бункеры-зямлянкі непадалёку ад сваіх вёсак. Расла група партызан, раслі па размеру і яе зямлянкі. Пад Шашыламі на будаўніцтва бункера было зрасходвана каля дзесяці кубічных метраў будаўнічага лесу. У красавіку месяцы партызаны прысвоілі групе імя легендарнага героя грамадзянскай вайны Пархоменкі, і яна з таго часу пачала называцца партызанскім атрадам.

Атрад імя Пархоменкі ўзнік самастойна, без сувязей з другімі партызанскімі атрадамі. Камуніст Лявон Смірноў і яго сябры чулі аб дзеяннях партызан у брэсцкай вобласці і ўжо ў пачатку 1942 году абмяркоўвалі метады ўзброенай барацьбы супраць ворага. Але знайшлі іх толькі зімою 1942—43 года. Першае баявое ядро гэтага атрада, у якое ўвайшлі Лявон Смірноў, Рыгор Аблавацкі, Сцяпан Дзікуноў, Яша Ясняцоў і іншыя складвалася з сакавіка 1942 года. Гэта былі былыя воіны Чырвонай Арміі, якія трапілі ў акружэнне і жылі ў вёсках раёна дзеяння Снежкаўскага антыфашысцкага камітэта. Да арганізацыйнага афармлення атрада ў красавіку 1943 года, яны ўжо мелі зброю і каля года праводзілі невялікія баявыя аперацыі ноччу, а днём жылі ў дамах вясковых антыфашыстаў.

Дыверсіі пархоменцаў на чыгунках Чаромха—Нурэц і Чаромха—Кляшчэлі і на шасейных дарогах паднялі на ногі ўсе навакольныя гарнізоны. Як і ў Белавежскай пушчы, вакол месц дыверсій пачалі рыскаць шпікі. Але гітлераўцы і падумаць не маглі, што ў наваколлі такіх вёсак, як Снежкі, Шашылы і іншых могуць абаснаваць свае базы партызаны. Усё ж правакатары шнырылі па вёсках. Адзін шпіён быў злоўлены ў Дубне. Высветлілася, што ён падрыхтаваны ў спецыяльнай школе і атрымаў заданне знайсці сувязных і пранікнуць у атрад. Здраднік быў расстраляны. Яшчэ тры правакатары былі выкрыты і расстраляны ў Сабятыне, Кнарыдах і Чырвонай Всі.

Пархоменцы мелі даволі шырокую сетку сувязных ва ўсім Бельскім раёне. У горадзе Бельску, у вёсцы Відава і іншых вёсках працавалі антыфашысцкія камітэты, якімі кіравалі Мікалай і Яфрэм Парфянюкі, Якаў Базылюк, Антонім Нікалаевіч, Міхаіл Пракапчук, камсамолец Шурка Баравы, Уладзімір і Васіль Шаралы. У іх дамах партызаны баявога ядра пархоменцаў заўсёды знаходзілі сабе адпачынак, атрымвалі ад іх баепрыпасы і зброю, звесткі аб варожых гарнізонах.

Ад Снежак, Шышыл і Нурца, Бельска і Відава сувязі антыфашыстаў ішлі ў Бранскі і Цеханавецкі раёны, а адтуль у Лапскі раён. З першых дзён акупацыі немцамі Цеханоўца, пайшоў у лес Томаш Грабаж, паляк па нацыянальнасці, былы актыўны член Камуністычнай партыі Польшчы. Ён устанаўліваў Савецкую ўладу ў Цеханоўцы ў верасні 1939 года. Калі б Томаш застаўся на легальным становішчы, то, вядома, быў бы павешаны ці расстраляны гітлераўцамі. Ён і стаў ініцыятарам стварэння антыфашысцкіх камітэтаў у сваім і суседніх раёнах.

Самастойнай баявой адзінкі антыфашысцкія камітэты Лапскага, Бранскага і Цеханавецкага раёнаў не стварылі. Сюды, у Рудакоўскі, Лемніцкі і Бранскі лясы прыйшла ўзброеная група былых чырвонаармейцаў, якім удалося збегчы з фашысцкага палону на шляху ў Германію. Групу прывёў яе камандзір Павел Фёдаравіч Разін.

Першую баявую аперацыю гэтая група правяла ў Венграўскім павеце Варшаўскага ваяводства. 17 красавіка 1943 года там быў знішчаны лесазавод у Медніцкім лесе. Аперацыя нарабіла мнсга шуму ў варожых гарнізонах. Было затрымана буйнае вайсковае падраздзяленне, якое адпраўлялася на ўсходні фронт. Двое сутак гітлераўцы прачэсвалі Старавежскі і Медніцкі лясы, але група Разіна была няўлоўнай. Немцы не чакалі, што партызаны будуць прарывацца ў бок разбуранага лесазавода і там іх ланцуг быў самым слабым. Павел разведаў гэта і яго група згуртаваным ўдарам змяла варожы кулямётны разлік і выйшла з акружэння. У гэтым баі было знішчана каля 25 фашыстаў. Смерцю храбрых загінулі два партызаны.

Летам 1943 года група Разіна перайшла на правы бераг Заходняга Буга. Іх было 15 чалавек. На зіму ім прыйшлося раздзяліцца на больш дробныя групы, якія стварылі свае базы ў Рудакоўскім, Лемніцкім і Бранскім лясах. Разін і яго партызаны хутка наладзілі сувязь з антыфашысцкімі камітэтамі Відава, Бельска, а праз іх і з атрадам імя Пархоменкі.

Што ж сталася з групай Валодзі, з

 

# З кантрактацыяй не ў ладах

Напэўна не ўсе поўнасцю разумеюць роль кантрактацыі. Многія памятаюць, як цяжка было калісьці з кантрактацыяй жывёлагадоўлі, як працаўнікі вясковых гандлёвых установаў ужо на пунктах скупу ўпіхвалі да падпісання гаспадарам кантрактацыйныя ўмовы, прапануючы нават даражэйшую цану. Сёння да кантрактацыі жывёлагадоўлі не трэба нікога намаўляць. Маем аднак іншую праблему — кантрактацыю збожжа. Праблема на столькі важная, што звязана з імпартам збожжа. Здавалася б, што ўзровень гаспадароў, сельскагаспадарчай і гандлёвай службы так павысіўся, што спецыяльных цяжкасцей у гэтым напрамку не будзе. Аказваецца аднак, што да гэтай праблемы не падрыхтаваны не толькі гаспадары, але і часта сельскагаспадарчая служба. Адна справа — гэта тое, што гаспадарам вельмі мала высняецца аб матэрыяльных карысцях, вынікаючых з кантрактацыі збожжа, а замнога прымяняецца адміністрацыйных спосабаў, другая — не паказваецца агульнакраёвага значэння кантрактацыі.

У Мілейчыцах давялося мне, напрыклад, пачуць размову прадстаўнікоў мясцовага ГС-у і грамадскай рады. Прадстаўнік ГС-у пераконваў працаўніка ГРН, што, каб павялічыць кантрактацыю збожжа, трэба, каб прэзідыум ГРН не выдаў пасведчанняў аб маянтковым стане вучням, якія хочуць паступіць у сярэднія школы, або ўпісваць у пасведчанні, што дадзены гаспадар не хоча кантрактаваць. «Тады ўсё ідзе вельмі гладка», — гаварыў гэсавец. Пераконваў, што многія ГРН-ы так робяць. Веру, што гэта практыкуецца, але з другога боку веру, што прадстаўнік вясковага гандлю не ведае, што гэта з'яўляецца чыстай вады шантажом і бяспраўем. Інакш гаворачы, гэта чаканне на вынікі і на прэміі без укладу сваёй працы.

У далейшых разважаннях паслужуся прыкладамі з Гайнаўскага павета. На 1967 год закантрактавана тут збожжа на 1877 га. План перавыкананы, але на канец сакавіка 1968 года скуплена толькі 698,5 тон збожжа, гэта значыць, толькі 41 прац. Адной з асноўных прычын такой нізкай скупкі кантрактаванага збожжа быў градабой. Гэта праўда. Але градабой панішчыў збожжа перад усім на тэрыторыі ГРН Дубіны, Чыжы і Новае Беразова, а найгорш з рэалізацыяй кантрактацыйных умоваў было ў ГС у Нарве, дзе ў красавіку ў 100% з умоваў вызвалялася толькі 48,7% гаспадароў. Можна меркаваць, што праводзячым кантрактацыю залежала не на колькасці цэнтнераў, а выключна на колькасці закантрактаваных гектараў, што абсалютна не з'яўляецца мэтай кантрактацыі. З поўнай адказнасцю сцвярджаю, што гаспадарчая служба вельмі мала прыкладвала ўвагі да спосабу рэалізацыі кантрактацыйных заданняў. Прэзідыум ПРН у Гайнаўцы сцвярджае, што абмежаваліся наогул толькі справай высылкі напамінаў і прапагандовых лістовак. Амаль зусім не назіралася супрацоўніцтва з перадавікамі кантрактацыі.

У Гайнаўскім павеце назіралася таксама вельмі некарысная з'ява. Каб разлічыцца з кантрактацыяй, гаспадарчы апарат выкарыстаў градабой і пачаў масава, пры дапамозе пратаколаў, разлічваць гаспадароў з кантрактацыі. Да гандлёвых улад наплыло аж 1354 пратаколы страт пасеваў, што раўняецца 32,4 прац, агулу кантрактуючых гаспадароў. Асабліва непакоілі факты знішчэння плантацыі ў 100 прац. Улады правялі фрагментарычны кантроль. Аказалася, напрыклад, у ГС Кляшчэлі, што на тэрыторыі ГРН Дубічы Царкоўныя ўплыло аж 7 пратаколаў, сцвярджаючых знішчэнне плантацыі ў 100 прац. градабоем. У пратаколах ПЗУ, які выплачвае страхоўку, гэтыя гаспадары абсалютна не фігуравалі. Многія пратаколы былі спісваныя ў снежні, студзені і нават у лютым.

Гэтымі справамі заняліся тыя што трэба. Але гэта не ўсё. Неабходна за гэтымі справамі сачыць увесь час. Напэўна трэба прыглянуцца бліжэй да некаторых людзей, працуючых у ГС-ах і ПЗГС-ах, прааналізаваць іх прыдатнасць да заданняў вясковага гандлю. Неабходна прытупіць «адміністрацыйныя» замешкі, якія прыносяць шкоду агульнадзяржаўнай справе.

**А. Лабановіч**



**На здымку: Я. Ільяшук у час рэпетыцыі з вучнямі.**

НАШЫЯ НАСТАЎНІКІ

# ЯНКА ІЛЬЯШУК

Калі мы выпадкова запыталіся пра настаўнікаў, якія супрацоўнічаюць з БГКТ, у Гайнаўскім аддзеле таварыства як адно з першых пала прозвішча **Янкі Ільяшука.** Актыўна супрацоўнічае ён з таварыствам пры арганізацыі рознага тыпу мерапыемстваў і распаўсюджванні выдавецтваў на беларускай мове. Калі бліжэй прыгледзецца гэтаму настаўніку, стаецца ясным, што гэтая актыўнасць невыпадкова.

Я. Ільяшук настаўніцкую працу пачаў 27 гадоў таму. Гэты настаўніцкі шлях ружамі не быў высцелены. Многія цяжкасці трэба было пераадолець. Трэба было вучыць, вучыцца, будаваць. Дваццаць сем гадоў настаўніцкай працы — гэта безупынная сувязь з беларускай мовай. Сувязь не пасіўная, але актыўная — амаль праз усе гады прафесіянальнай працы вучыў дзяцей роднай беларускай мовы. Гады працы ў Курашаве і Койлах, гэта гады кіравання мастацкім аматарскім рухам у гэтых жа вёсках. Ад чатырох год Янка Ільяшук працуе ў Новаберазове і тут таксама арганізуе беларускія «сцэнкі». Калі мы наведалі школу ў Новаберазове, якраз праходзіла рэпетыцыя «Суседкі» з вучнямі VII, VIII, а нават і шостага класаў. Гэту п'есу хацелі паказаць на свята сялян. Школа ў Новаберазове прыймае актыўны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах, якія арганізуе БГКТ. У мінулым годзе рэцытатары, пад кіраўніцтвам Я. Ільяшука, занялі ў рэцытатарскім конкурсе I месца ў павятовых аглядах і прыймалі ўдзел у цэнтральным аглядзе ў Беластоку.

Шмат часу Я. Ільяшук прысвячае грамадскай працы. Грамадская канферэнцыя ЗСЛь (Аб'яднанага страннiцтва людовага) даверыла яму функцыю **прэзаса грамадскага камітэта ЗСЛь у Новаберазове.** Гэта чарговыя старонкі жыцця нашага настаўніка. Хопіць толькі напомніць сельскагаспадарчыя заданні, каб уявіць сабе, як адказную функцыю ў Страннiцтве займае Я. Ільяшук. Але на гэтым яго праца не канчаецца. З'яўляецца ён прэзасам Камітэта пабудовы дома культуры, а таксама членам Камісіі культуры і сацыяльных спраў ГРН.

Вось толькі некаторыя вытрымкі з багатага прафесіянальнага шляху Янкі Ільяшука.

**А.К.**

фота аўтара

# Пад вокам грамадскага кантролю

У 1964 годзе згодна з пастановай Савета Міністраў і Цэнтральнай Рады прафсаюзаў былі створаны грамадскі кантроль гандлю і паслуг. Калектывы грамадскага кантролю існуюць пры ВКЗЗ і пры Павятовых Камісіях прафсаюзаў. Не дрэннымі вынікамі працы можа пахваліцца калектыў у Бельску. У 1967 г. правёў ён 220 кантроляў. У выніку гэтага былі накіраваны паасобным кіраўніцтвам 62 прапановы, змест якіх датычыць павелічэння эфектыўнасці кантраляваных адзінак: 18 прапаноў накіравана Ваяводскаму калектыву грамадскага кантролю, 18 прапаноў накіравана ў карна-адміністрацыйную калегію, 1 — пракурору, 5 — у санэпід і іншыя установы.

Асаблівая ўвага звернута на кантроль вясковых крамаў. Аднак трэба сказаць, што мала яшчэ кантраляваліся крамы, адлеглыя ад камунікацыйных дарог, а тут справа дзейнасці крамаў і прадаўцоў не заўсёды добра выглядае.

Усё ж трэба адзначыць, што ў выніку грамадскага кантролю ў вялікай меры ўдалося выключыць такія хібы, як недаважванне пачкаваных тавараў, продаж тавараў без фірмовых значкоў, выстаўка тавараў без цэн, а таксама паслугоўванне нелегальнымі мярнічымі прыладамі. Але і тут калектыў сустрэўся з цяжкасцямі. Менавіта, не ўдалося пераламаць нядбальства і пасіўнасці ў галіне забеспячэнне крамаў таварамі. Гэтыя справы не залежаць ад кантралюючых. Справа між інш. у тым, што за недахоп у краме тавараў, якіх ёсць дастаткова на складзе, не прадбачваецца прадаўцам ніякіх кар.

Многа месца калектыў грамадскіх кантралёраў прысвяціў кантролю прадстаўнікоў грамадскага і прыватнага гандлю, а таксама іншых асоб, якія падпільноўваюць людскую наіўнасць. Між іншым кантралёрам удалося зліквідаваць 6 прадпрыемстваў разрыўковага характару, якія вялі рознага тыпу азартныя гульні. Каб ліквідаваць гэткія «разрыўкі», трэба было часта інтэрвеняваць ва ўлад Варшавы, Ваяводскай Камэндзе МО і іншых установаў.

Трэба сказаць, што праца грамадскіх кантралёраў адказная, вымагаючая вялікага самаахвярнасці, часта падвяргаючая іх рознага тыпу непрыемнасцям, а часам і прыдзіркам з боку тых асоб, якім кантроль перашкаджае. А гэтыя ж людзі працуюць грамадска і для грамадскасці. І таму з боку усіх, а перш за ўсё з боку ўстаноў, у якіх гэтыя людзі працуюць, патрэбна асаблівая дапамога.

А.К.

# Пабло ПІКАСО ў Беластоку

Нацыянальны Музей у Варшаве ў сваіх багатых зборах твораў сусветнага мастацтва мае 42 графікі слаўнага творцы кубізму Пабло Пікасо. Выкананы яны літаграфічнай тэхнікай. Гэта дар аўтара Музею. 32 свае графікі з 1947—48 гадоў Пікасо падараваў Музею, калі быў у Польшчы на з'ездзе Сусветнай Рады Міру ў Вроцлаве ў 1948 годзе. 10 графік — плён апошніх год працы.

Нацыянальны Музей з пікасоўскіх графік арганізаваў аб'язную выстаўку. І такім спосабам і ў Беласток завітаў сам арыгінальны Пабло Пікасо, па паходжанні — іспанец, па выхаванні — француз.

Што ж аб самай выстаўцы? Напэўна варта паглядзець! Аб Пікасо напісана вельмі многа і па-рознаму. Але адно пэўнае — гэта сапраўды вялікі мастак.

Выстаўка графікі Пабло Пікасо адкрыта ў Акруговым Музеі ў Беластоку ў Ратушы на Рынку Касцюшкі.

(вл)




■ Чэрвеньская спякота была прычынай вельмі вялікай колькасці пажараў. У гэтым жа часе шмат асоб утапілася. Для прыкладу: толькі ў адну нядзелю 16 чэрвеня г.г. утапілася ў Беластоцкім ваяводстве 6 чалавек. 3 асобы — у Бугу, адна — у рацэ Супрасль, адна — у Нарве і адна — у рацэ Нурэц. 24 чэрвеня г.г. трохгадовая Аня Ельская з Крынак утапілася ў бочцы, запоўненай вадой да вышыні 60 сантыметраў. Аставалася яна дома без апекі і залезла або ўпала ў бочку ў час гульні. 23 чэрвеня г.г. ля чыгуначнага моста на Нарві ў Страблі ўтапіўся 16-гадовы Хведар Класоўскі з Беластока. Упаў ён у рэчку, закідваючы вудку.

■ У Беластоку на вуліцы Жалезнай ў памяшканні Паплаўскіх ад няспраўнага электраабсталявання ўзнік пажар. У агні памерла 3-гадовая дачка Паплаўскіх, якая без апекі спала на ложачку. У Слабодцы, Сакольскі павет, згарэў дом Мікалая Малеса, на хутары Леўшы ў Беластоцкім павеце ад сонечных праменняў загарэўся стог сена. Ад няспраўнага коміна згарэў дом Міхаіла Муська з Дубна ў Бельскім павеце. У вёсцы Дашы, Гайнаўскага павета, згарэлі тры клуні з сёлеташнім сенам. Пажар узнік ад вогнішча, якое ля клуні свайго дзядзькі расклаў 9-гадовы хлапчук Мікалай Ляшчынскі.

■ На вузкачыгуначным пераездзе ў Чорнай Беластоцкай трапіў пад паравоз самаход «Жук», якім кіраваў Антон Жукоўскі. У выніку гэтага паранены былі тры пасажыры.

■ Сыльвін Зайкоўскі з вёскі Зайкі ў Манецкім павеце падключыў драты да электраэнергіі высокага напружання і пры іх дапамозе хацеў лавіць рыбу ў Нарве. Ударам электраэнергіі забіла «вынаходлівага» браканьера.

■ У Бельскай рашарні 59-гадовая ўдава Аляксандра Мінкевіч трапіла ў нажы адной машыны. Ад ран памерла яна ў бальніцы.

■ Гайнаўская міліцыя арыштавала камбінатара Аляксандра Ажароўскага, якому 28 год, з Гайнаўкі. На працягу 3-ох апошніх год ашукаў ён шмат людзей.

якой мы развіталіся ў Белавежскай пушчы пасля бою 2 лістапада? У гэтым жа месяцы група прышла ў Бельскі раён. Па дарозе, у сутычцы з варожай засадай адбіўся ад групы Рыгор і пасля доўгіх блуканняў вярнуўся ў штаб генерала Капусты, у Ліпічанскую пушчу, дзе быў кіраўнік іх групы маёр Хмелеўцаў. У групе Валодзі засталося тры чалавекі: ён, Міша і Вася. Ужо ў Бельскім раёне загінуў Міша, а правакатары з Істока схапілі і расстралялі Васю. Валодзя застаўся адзін. У яго ўжо былі наладжаны сувязі з атрадам імя Пархоменкі. Партызаны з радасцю прынялі яго ў сваю сям'ю, а Валодзя з свайго боку многа новага ўнёс ў іх жыццё. Ён быў першы пасланец з Вялікай зямлі ў гэтых краях і прынёс сюды невялікі кавалачак жыцця з-за фронту, дзе савецкія воіны грамілі ўжо нямецкія полчышчы і гналі іх на захад. З увагай слухалі партызаны падрабязнасці падзей пад Сталінградам і на Курскай дузе. Цікавілі іх дзеянні Саюза Польскіх Патрыётаў у СССР, баявыя справы дывізіі Тадэуша Касцюшкі, ды наогул усё, што паскарала хутчэйшы разгром фашыстаў.

А цяпер закончым знаёмства з партызанскім рухам у Белавежскай пушчы. Былі тут яшчэ і такія выдатныя арганізатары партызанскіх груп, як дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР Мікалай Ялоза і старшыня Стара-Ляўкоўскага сельсавета Сяргей Харкевіч. Іх баявую групу ўзначальваў Косцін, якога называлі капітанам. Але пад Нараўкай і Ляўковам таксама знайшліся правакатары і шпіёны, якія выследжвалі партызан і даносілі фашыстам аб месцазнаходжанні іх лагераў. Такім быў там солтыс Гайдучэня і іншыя. Партызаны расстрэльвалі здраднікаў, а яны зноў паяўляліся, як мухаморы пасля дажджу. Мікалай Ялоза з групай вымушаны быў таксама пакінуць пушчу і пайсці ў Брэсцкае злучэнне партызан.

Здраднікі і правакатары не давалі спакою і антыфашысцкім камітэтам у бліжэйшых да Белавежскай пушчы вёсках Гайнаўскага раёна. Яны вынюхвалі сакрэты іх баявых спраў, даносілі немцам, а гестапаўцы жорстка распраўляліся з патрыётамі. Павесілі ў Белавежы арганізатара і старшыню антыфашысцкага камітэта ў Дубінах, партызанскага сувязнога Яна Верамюка, расстралялі партызанскіх сувязных — антыфашыстаў Рыгора Волчыка, Веру і Яна Гіжэўскіх, Вінцэнта Каладзея, Яна Коўшыка, Казіміра Пташынскага і сотні іншых патрыётаў сваёй Радзімы. Гэтыя ахвяры фашызму пакояцца ў трох магільніках пушчы: у Дзяржаўным рэзерваце, за Стачком каля Броўскай дарогі і каля чыгункі на Жвіроўні. Людзі гінулі ад рук фашыстаў, але барацьба не заціхала. Не дапамагла гітлераўцам і жорсткая расправа з жыхарамі вёскі Райск, дзе былі спалены ўсе будынкі і расстраляна 146 чалавек, сярод якіх шмат малых дзяцей і жанчын.

Вось, прыкладна, усё, што мы змаглі разведаць аб сваіх раёнах дзеяння ў час прабывання брыгады «У імя Радзімы» у Ружанскай пушчы зімою 1943—44 года. Многа дапамог нам у гэтым Васіль Пятровіч Кірычэнка, накіраваны штабам ў нашу брыгаду з атрадам імя Калініна.

Да сакавіка месяца 1944 года быў закончаны падрыхтоўчы перыяд да другога паходу ў раёны дзеяння. За гэты час нашы партызаны былі падрабязна азнаёмлены са становішчам у Белавежскай пушчы і ў заходніх ад яе раёнах.

**(Працяг будзе)**



 

 

# ЧАСЦЕЙ РАЗВОДЗЯЦЦА МУЖЧЫНЫ

Нядаўна варшаўскае Галоўнае Статыстычнае Упраўленне выдала кніжку **«Разводы ў 1949—1966 гадах».** Гэта першая такога роду публікацыя ў нашай краіне.

У 1957 годзе суды мелі 30.780 спраў аб разводах, а ўжо ў 1966 годзе мелі 42.633 такіх спраў. За перыяд ад 1949 да 1966 г. лік разводаў у гарадах павялічыўся ў два з паловай разы, а ў вёсках — у паўтара разы. Найбольш разводаў у вялікіх гарадах і высакаразвітых ваяводствах — Катавіцкім, Гданьскім і інш. Найменш разводаў у ваяводствах — Келецкім, Беластоцкім. У вёсках найчасцей разводзяцца асобы, не звязаныя з гаспадаркай, даязджаючыя на працу ў гарады.

Калі ўзяць агульна разводы, дык вынікае, што сярод разведзеных (выступаючых аб разводзе) пераважаюць мужчыны, ажэненыя да дваццатага года жыцця. У сярэднім разводзіцца кожны пяты такі маладажон. Сярод жанчын, якія выйшлі замуж да дваццатага года жыцця выступае з просьбай аб разводзе толькі кожная дзесятая. Мужчыны разводзяцца часцей, чым жанчыны.

Непакоіць тое, што ў апошнія гады выразна павялічыўся лік разводаў у сем'ях, якія пражылі дзесяць і больш гадоў. Сярэдні век разводніка ў 1951 годзе дасягаў 31,6 г., а разводніцы — 28,5 г. А ў 1966 годзе сярэдні век разводніка павялічыўся да 37 год, разводніцы — да 33,8 г.

Сярод пяцісот спраў аб разводах, якія прааналізавана ў Варшаве, сцверджана, што палова прычын разводаў — гэта **здрады,** толькі кожная дзесятая справа аб разводзе адбывалася з прычыны алкагалізму. Нягледзячы на тое, што агульна беручы большасць спраў аб разводзе адбываецца на просьбу мужчын, адначасова суды сцвярджаюць, што прычынаю распаду сям'і з'яўляюцца таксама мужчыны; жанчыны, пераважна, сцерагуць ладу сям'і з усіх сіл і рашаюцца «падаваць на развод» толькі тады, калі няма ўжо ніякіх надзей на паляпшэнне сітуацыі. Такая праўда.

## Штучная „жывая рука"?

Першы крок на гэтым, здавалася б, фантастычным шляху ўжо зроблен. Гутарка ідзе аб пратэзе рукі з біяэлектрычным кіраваннем. Як вядома, створаная савецкімі спецыялістамі такая рука можа выконваць шматлікія, нават тонкія аперацыі. Яна дапамагае, скажам, пры рабоце на пішучай машыцы і з фотаапаратам, у рамонце радыёапературы і пры кіраванні аўтамашынай.

Але стваральнікі штучнай рукі не лічаць сваю работу закончанай. Яны маюць намер стварыць руку, якая будзе рабіць яшчэ больш тонкія і складаныя рухі. Больш таго, спецыялісты прыйшлі да вываду, што можна зрабіць так, каб штучная рука стала адчувальнай, накшталт жывой! Работы ў гэтым напрамку ўжо вядуцца.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# ЗАБОЙЦЫ

Першай падняла шум бразільская прэса, электрызуючы ўсю краіну страшэннымі загалоўкамі: «Масавыя забойствы ў амазонскай сельве», «Халоднакроўная экстэрмінацыя дзесяткаў тысяч людзей».

У 1966 годзе бразільская газета «О Глоба» надрукавала серыю рэпартажаў на тэму знішчэння індзейскага насельніцтва ў Бразіліі працаўнікамі службы аховы індзейцаў! Утвораная ўрадам следчая камісія пацвердзіла апісаныя факты.

Вось яны...

На працягу апошніх гадоў — асабліва ад 1964 года — амазонская сельва і суседнія тэрыторыі былі арэнай нечуваных у гэтым закутку свету масавых забойстваў. У штаце Мата Гроса бамбардзіравана з паветра хаты індзейцаў, уцалеўшых ад гэтых бамбардзіровак выбіта пры дапамозе аўтаматычнай зброі. У штаце Бахія індзейцаў заразілі тыфам, выклікаючы такім чынам душагубную эпідэмію. Там жа атручана стрыхнінам сотні індзейцаў, якім раздалі муку і цукар з дамешкай атрут.

У штаце Амазонас, на выспах Арабія і Арамака канаюць заражаныя жудаснай праказаю індзейцы з племені Тыкуана.

Знаўца культуры і звычаяў бразільскіх індзейцаў, адзін з былых шэфаў службы аховы індзейцаў, лекар Ноель Нутэльс сказаў, што сістэматычнае вынішчэнне індзейцаў пачалося ад моманту ўрадавага перавароту ў 1964 годзе. За плячыма дыктатарскай хунты хаваюцца «бізнесмены» з Вашынгтона і Нью-Йорка. Другі былы шэф службы аховы індзейцаў пан Хосе Марыя да Гама Мальхер прызнаў, што адрокся ад гэтай пасады, калі пераканаўся, што злачынцы карыстаюцца падтрымкай не толькі мясцовых уладаў, але і палітыкаў, міністраў.

Вялікі сучасны гуманіст Клод Леві-Штраус, збіраючы матэрыялы да сваіх навуковых прац, застаў у 1919 годзе ў прыбярэжным штаце Сан-Паула шматлікія індзейскія плямёны, аб якіх мала ведалі нават у самой Бразіліі. Калі Леві-Штраус вярнуўся сюды праз 17 год, не сустрэў тут ніводнага індзейца. Іх проста вынішчылі, а рэшту прагналі ў інтэрыёр, сотні кіламетраў у глыб бразільскага кантынента.

Сам міністр справядлівасці Бразіліі прызнаў, што найменш пятая частка цэлай тэрыторыі Бразіліі, гэта значыць каля 1,6 мільёна квадратных кіламетраў, належыць зараз да замежнага капіталу! Гэты ж міністр сказаў таксама, што амаль уся даліна вялізнай ракі Амазонка знаходзіцца ў руках чужаземцаў, галоўным чынам, паўночна - амерыканскіх дзялкоў.

У 1960 годзе ў Бразіліі налічвалася 1,2 мільёна індзейцаў (няцэлых 2 працэнты насельніцтва краіны). Праз шэсць год пасля лік індзейцаў паменшаў да 0,8 працэнта насельніцтва краіны. Індзейцы пражываюць галоўным чынам у басейне Амазонкі.

Будучыня пакажа, колькі чырванаскурых уратавалася ад гэтай гіганцкай разні, якая ўсё яшчэ прадаўжаецца, і нічога пакуль не паказвае на тое, што спыніцца. Забойцы зарабляюць на крыві індзейцаў золата, чужаземны капітал грабіць самую Бразілію, яе землі, воды, мінеральныя багацці, працу людскіх рук. Краіна, вялікая амаль як Еўропа, з бязмежнымі перспектывамі, церпіць галечу, грязне ў бесперспектыўі. Гадуюцца ў ёй забойцы!

(а-ся)



Басейн Амазонкі — радзіма бразільскіх індзейцаў.



**«ВІДЭАФОН»**

У электронным канцэрне «Цісіба» ў Японіі заінсталявана вось такі (на здымку) «відэафон» — тэлефанічны апарат, спалучаны з тэлевізіяй. Як відаць, справа распаўсюджання «відэафонаў» з'яўляецца толькі справай часу. Ці ўсе з гэтага будуць задаволены? Пабачым за 10—15 год. Пакуль што гэтага тыпу апараты надта дарагія. (А-ка)

**Гаспадыням**

## Кампот з недаспелага агрэсту

Буйныя, ледзь недаспелыя ягады перабраць, ашпарыць, накалоць іголкай у некалькіх месцах. Затым скласці ў прастэралізаваныя слоікі і тры разы заліць гарачым сіропам (як і яблыкі).

*

Некаторыя гаспадыні кансервуючы кампоты ўжываюць аспірын: на літр кампоту — адна таблетка (0,5 г) аспірыну. На дно прастэрылізаванага слоіка кладуць аспірын затым падрыхтаваныя фрукты ці ягады і заліваюць гарачым сіропам. Закрыўшы слоікі металічнымі накрыўкамі, перакульваюць іх дном да гары. Захоўваюць у цёмным, халодным месцы.

# ПАВЕДАМЛЕННІ

— пачата будова найбольш доўгага тунеля ў свеце. На даўжыні 50 км спалучыць ён каньён ракі Арпа з возерам Сяван у Арменіі.

— услед за СССР, горад пад дахам мае быць пабудаваны ў Злучаных Штатах Амерыкі. Пад шасцю купаламі размерам па 3,2 км кожны і вышынёю 1600 м, змесціцца 250 тысяч жыхароў гэтага горада.

— мука з... бавоўны можа ў значнай меры садзейнічаць ліквідацыі недахопу бялка ў свеце. Як заявілі амерыканскія вучоныя, з насення бавоўны можна выраблядь зусім смачную муку. Злучаныя Штаты змогуць вырабіць такой мукі каля 2 мільёнаў тон у год, іншыя краіны — 6 мільёнаў тон.

— цяжкаплаўкае шкло, апушчанае ў звычайнае расплаўленае шкло, пакрываецца тонкай абалонкай, якая павялічвае яго вытрымаласць у 13 разоў большую ад... сталі.

— у Швейцарыі кароў возяць на выпас верталётамі. У горскіх ваколіцах перагон быдла немагчымы з увагі на вялікія адлегласці і стромкасці. (ся)




Ціхая месячная ноч над акіянам. Толькі што побач скалы прайшоў карвет. Некалькі гадзін назад далёка ў моры была выяўлена невядомая падводная лодка. Яе атакавалі, але відаць без выніку. Мабыць, яна недзе тут...

Пошукі не далі выніку. Карвет вярнуўся на базу.

Ён аддаліўся — і падзямелле ажыло. Плыўцоў спешна паднялі з нар, вывелі з тунеля. Пляцоўку каля лагуны асвяцілі, спусцілі на ваду буксіроўшчыкі. Атрад з дзесяці асоб на чале з Глюкам выруліў на сярэдзіну лагуны і апусціўся.

Яшчэ дзесяць плыўцоў засталіся на беразе.

Абст пакідае пляцоўку. Па дарозе ён датыкае рукой засаўку сцяннога сейфа — правярае, ці замкнута сховішча.

Карцаў назірае за ім. Так, ён не памыліўся: памагаючы адзяваць плыўцоў, ён бачыў — рэспіратары вынімалі з сейфа. А ніжняя частка жалезнай шафы застаўлена паўметравымі металічнымі верацёнамі і кароткімі конусамі; відаць, гэта міны і ўзрывацелі да тарпед.

Але сейф недаступны — ключы Абст носіць з сабою. Вось калі б наладзіць кантакт з Мартай Рышэр! Аднак яна маўчыць. Пасля гутаркі аб кіназдымцы Карцаў шмат разоў наведваў сваю пацыентку. Ён чакаў актыўнасці з яе боку — і не дачакаўся. Не разумела намёку? Або не верыць яму, баіцца?

У лагуне рух. Усплывае Глюк і яго спадарожнікі. Пяцера з іх буксуюць па касеце — дакладна такой, у якой быў індзеец. Значыць, прышла лодка, якая даставіла новую партыю вар'ятаў, аб якой успамінаў Абст.

Вальтэр спрытна арудуе кранам, выцягваючы з вады труз.

З'яўляецца Абст. Па яго камандзе плыўцы становяцца да касетаў, падымаюць іх і адносяць. Першую разам з трыма плыўцамі нясе Глюк.

Неўзабаве аднесены ўсе касеты, падняты следам за ім з вады пяць вялікіх гумовых мяшкоў. Паўгадзіны на адпачынак. Затым Глюк і яго група зноў ідуць пад ваду. Відаць, у чарговы рэйс.

Куды аднесены кантэйнеры? Транспартыроўка іх заняла мінут сем-восем. Значыць, недалёка. Мабыць, у пакой Абста.

Атрад Глюка вяртаецца. На гэты раз плыўцы прыбуксавалі толькі мяшкі.

*

Людзі накормлены. Цяпер, пасля цяжкай працы, яны спяць.

Карцаў замыкае дзверы і выходзіць. Так, яму даверылі ключ. Але гэта толькі з выгляду свабода. Кожны яго крок пад кантролем. Дзе б ён не быў, заўсёды паблізу аказваецца хто-небудзь з памочнікаў Абста, а то і сам гаспадар грота. А частка падзямелля, дзе працуе Абст, і дзе знаходзіцца радыёрубка, камбуз і нейкія іншыя службы, — гэта частка грота наогул забаронена для яго зона.

Сёння ён выкліча Рышэр на размову. У яго ў кішэні касета з плёнкай, выцягнутая з тайніка на пляцоўцы. Касета павінна прымусіць Рышэр загаварыць.

У тунелі раздаюцца крокі. Карцаў спыняецца. Прыціскаецца да каменя. Першым з'яўляецца Глюк. У яго аўтамат. Затым побач Карцава праходзяць незнаёмцы. Першы зусім малады. На ім ваенная форма. А рукі скованы. У наручніках і апошнія. Немцы? Не, у іх іншая ваенная форма.

Паход замыкае Вальтэр з аўтаматам напагатове. Група рухаецца ў напрамку лагуны.

Пастаяўшы, Карцаў выходзіць з укрыцця.

Ён у Рышэр.

— Што там здарылася? — пытае Рышэр. — Я чула, побач прайшлі людзі...

Карцаў не паспявае адказаць. Дзверы адчыняюцца. Гэта Абст.

— Даўно вы тут? — пытае ён Карцава.

— Мінут дваццаць, шэф. Вам здаецца, я спазніўся?

Абст не адказвае. Памарудзіўшы, звяртаецца да хворай:

— Дзе ваш ключ?

Рышэр кіўком паказвае на дзверы.

— Я замкну вас, — гаворыць Абст. — Замкну на гадзіну або паўтары. Доктар Рэйнхельт, пастарайцеся развесяліць сваю падапечную. Сёння даюцца вам усе магчымасці выкарыстаць добратворны ўплыў псіхатэрапіі.

Усміхнуўшыся, ён выходзіць.

— Што там здарылася? — зноў пытае Рышэр. — Даставілі новую партыю.

— Так.

— Колькі?

— Пяцёра.

— Божа мой, — шэпча Рышэр, — Божа, яшчэ пяцёра!

— Хто яны? Што з імі зробяць?

— Ох, вы ўсё дасканала ведаеце! — Рышэр з нянавісцю глядзіць на Карцава.

— Не, я нічога не ведаю.

— Хлусня!

— Мяне замкнулі з вамі. Падумайце: чаму? — Карцаў дастае з кішэні касету з плёнкай. — Ваша, — гаворыць ён.

У вачах у Рышэр жах.

— Вы неасцярожны, — працягвае Карцаў. — Ці ж можна так рызыкаваць? — Ён працягвае касету. — Вазьміце і выкіньце.

Рышэр ледзь прыкметна качае галавою.

— Нельга?.. А, разумею: яе трэба захаваць... Добра. — Карцаў апускае касету ў кішэнь. — Добра, я схаваю надзейна. І кінакамеру... — Ён бярэ руку Рышэр. — Скажыце, што зробіць



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПРАПАНОВЫ Ў АДРАС ПРН

Прэзідыум ГРН у Храбалах у сваёй працы вельмі многа прысвячае часу сельскагаспадарчым справам. Але, каб яшчэ лепш у гэтай мясцовасці радзілі палі, неабходна тут дапамога прэзідыума павятовай рады нарадовай у Бельску Падляшскім. У адрас ПРН храбалоўская ГРН накіравала шмат важных прапаноў. Да іх між іншым належыць просьба, каб ПРН у свае планы на найбліжэйшыя гады ўключыла дрэнаж зямельных угоддзяў у Малых Грыневічах, у Вялікіх Грыневічах, у Праневічах і Райску.

Чарговай прапановай з'яўляецца арганізацыя ў кожнай вёсцы грамады Храбалы па адным прыкладным пастбішчы.

**Аляксандр Трахімчук**
Храбалы

## 18 ГАДОЎ З КІНАПЕРАСОЎКАЙ



Кіраўнік кіно «Лес» у Нараўцы Валерыян Францішак і кінаапаратар Аляксандр Бяглюк працуюць у сваёй спецыяльнасці па 18 гадоў. Апрача сеансаў у сталым кіно «Лес» у Нараўцы (Гайнаўскі павет), ездзяць яны дэманстраваць фільмы ў такія акалічныя вёскі, як Плянта, Масева, Альхоўка, Ляўкова Старое і Ляшукі. У тых вёсках, дзе многа ахвотных, даюць яны па два сеансы ў тыдзень.

Кіраўнік кіно В. Францішак і кінаапаратар А. Бяглюк (на здымку) добра выконваюць свае службовыя абавязкі.

Тэкст і фота: **Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

---

Абст з тымі людзьмі?

Дзяўчына ляжыць нерухома.

Карцаў чакае.

— Марта, — мякка гаворыць ён, — Марта, мы трацім час. Адказвайце ж! Ён заб'е іх?

— Не, — шэпча яна.

— Што ж тады? Аперацыя?

— Не адразу. Спярша падавіць іх волю. Ёсць прэпарат... Потым аперацыя.

— Якая?

— Лобатомія.

— Я не зусім зразумеў...

— Трансарбітальная лобатомія.

— Як яна робіцца?

Рыцэр падносіць руку да твару, кранаецца пальцам верхняга края вочнай упадзіны.

— Адсюль? — шэпча Карцаў. Якая мэта аперацыі?

— Чалавек губляе волю, памяць. Ён пакорны, амаль не думае.

— Гэта назаўсёды?

— Не ведаю.

— А брыкеты, якія атрымліваюць плыўцы, навошта яны?

— Калі іх не даваць, аперыраваны неўзабаве пераўтвараецца ў параноіка. Гэта звер. Потым ён гіне.

— І яго нельга ратаваць?

— Не ведаю.

— Абст сам дайшоў да ўсяго гэтага?

— Ён працаваў са спецыялістамі. Практыкаваўся ў лагерах.

— Вы былі там разам з ім?

— Так.

— Няўжо памагалі яму?

— А вы? — Рыцэр глядзіць на Карцава злымі вачыма. — Самі вы чым займаецеся?

**(Працяг будзе)**



Ядзя Шымановіч.

## КЛУБА-КАВЯРНЯ Ў ПАЎДНЁВЫМ ВОСТРАВЕ

Не так даўно ў Паўднёвым Востраве на Сакольшчыне адкрыта клуба-кавярня «Руху». Аддзел асветы прэзідыума ПРН купіў тэлевізар. Ёсць тут таксама патрэбныя настольныя гульні. Створаная рада гэтай культурнай установы апрацавала план дзейнасці. Штатным працаўніком там Ядзя Шымановіч. Яна і прадае кіёскавыя тавары і сочыць за парадкам.

Клуба-кавярня на вёсцы у гэтым раёне з'яўляецца навінаю і магчыма таму кожны вечар збіраецца сюды шмат людзей.

**М. Х.**
Тэкст і фота
Паўднёвы Востраў

## АДСТАЛАСЦЬ

Вёска Грабавец, што на Гайнаўшчыне, даволі вялікая, бо налічвае больш 100 гаспадароў.

Моладзі тут таксама не бракуе, аднак з культурным жыццём не найлепш. Сярод моладзі, відаць, не знайшоўся чалавек з арганізатарскім духам. Хлопцы і дзяўчаты тут у вольны час нічым культурным не займаюцца, а толькі п'юць гарэлку да страты прытомнасці і часта нават даходзіць да боек. Вельмі прыкра, што яшчэ ў нашых вёсках спатыкаецца такая адсталасць.

**П. Дубовіч**
Гайнаўскі павет

---




**Дарагое Сэрцайка!**

Пазнаёмілася я з Міхасём у зімовыя канікулы. Пакахала яго ад першага спаткання. Ён працаваў тады ў нашай вёсцы. Я з-за яго пакінула школу, была ў дзесятым класе. Думала, што ён сапраўды са мною ажэніцца, як ён мне абяцаў. Бацькі на мяне крычалі, але нічога не памагло. Зразумей, Сэрцайка, што я кахаю Міхася і то моцна. Месяц таму ён закончыў у нас працу і выехаў дадому. Абяцаў, што будзе пісаць і прыязджаць. І падумай, ад гэтага часу няма ніводнай весткі аб ім. Чула толькі ад аднаго хлопца, што цяпер ён працуе ў іншай вёсцы і там мае сабе іншую дзяўчыну. Што рабіць, ці мо паехаць да яго? Парай.

Марыся
з Беласточчыны

**Дарагая Марыся!** Так часта бывае, і такія бываюць хлопцы. Не ўсім можна верыць. Але не гэта найважнейшае. Найважнейшае тое, што ты пакінула школу. Не думай цяпер аб тым, каб шукаць па вёсках Міхася, аб якім мусіш забыць (зрэшты, ён не заслужыў на гэта, каб ты аб ім думала), а падумай, як направіць сваю вялікую памылку. Ты цяпер мусіш зрабіць усё, каб у будучым навучальным годзе паступіць зноў у школу і яе скончыць. Ты за далёка шагнула наперад, таму і атрымала за сваё. Гэта павінна табе быць навукай на будучыню.

Жадаю поспехаў
Сэрцайка

## СЕМІНАР

У Гайнаўцы 20 чэрвеня ў Доме Настаўніка адбыўся семінар Павятовага Праўлення Саюза Вясковай Моладзі. Найбольш часу было прысвечана наступнай тэме: «Асвета і культура ў маёй вёсцы». Сакратар ЛьЗС Віталіс Новік паінфармаваў, што амаль кожны член ЗМВ адначасова з'яўляецца ЛьЗС-аўцам.

**Міша Тэлешэўскі**
Рэпіска

## ПРЫКЛАДНЫ ГАСПАДАР

У вёсцы Гвозна, Беластоцкага павета жыве грамадзянін Аляксандр Максімовіч. Абрабляе ён зямлю ў Гвознай і Патоцы. Яму зараз 40 год. Кожны год ён кантрактуе розныя расліны. У мінулым годзе меў закантрактаваную белую і чырвоную канюшыну на абшары каля 2 га. За насенне канюшыны ён атрымаў 40 000 зл. Працы, — казаў Санька, — шмат, але даход вялікі.

У гэтым годзе мае 2 га кантрактаванай канюшыны. Цяпер на яго хутары расце таксама 1,5 га азімага рапаку.

Гэта гаспадар, які працуе на карысць сабе і краіне.

**Мікола Краўчук**
Патока

## КАНЦЭРТ У ПЛЁСКАХ



2 чэрвеня 1968 г. у вёсцы Плёскі выступаў хор Бельскага аддзела БГКТ. У яго праграме былі песні беларускія, украінскія і польскія. Канцэрт адбываўся на вольным паветры пры святліцы. Ад імя плёскаўскага гуртка БГКТ прашу харавую групу з Бельска часцей наведваць нашую вёску.

Тэкст і фота: Л. Леанюк
Плёскі

## ТРАСЦЯНІЦКІЯ СПАРТСМЕНЫ

Прыемна прачытаць у газеце ці паслухаць радыё перадачы аб тых вёсках, дзе моладзь дружна працуе, згуртаваная ў ЗМВ, БГКТ або ў ЛьЗС.

Неяк наадварот дзеецца ў вёсцы Трасцянка, што ляжыць у Гайнаўскім павеце. Тут ёсць многа моладзі, а існуючыя арганізацыі не праяўляюць дзейнасці.

Там ёсць ужо многа год гурток ЛьЗС. У час камасацыі інжынеры адвялі кавалак зямлі на спартыўны пляц, каб моладзі было дзе пагуляць. Сельскагаспадарчы гурток заараў той пляц трактарам, былі пастаўлены футбольныя вароты і нават зрабілі некалькі лавак, каб было дзе пасядзець гледачам. Некалькі дзён назад праязджаю я дарогай каля Трасцянкі і дзіўлюся, як на спартыўным пляцы каля паваленай «брамкі» стаіць карова і рычыць. Я лепей прыглядаюся і бачу, што яна увязана на ланцугу. З другога боку, дзе ўвогуле няма «брамкі», стаіць увязаны на ланцугу сівы конь, а па сярэдзіне бегае шэсць авечак і так выглядае, як бы сапраўды яны гялялі ў мяч.

Ці ж не сорамна трасцяніцкай моладзі, якая згуртавана ў ЛьЗС-е, каб так выглядаў іх пляц. Як быццам пакінутая якая-небудзь гаспадарка, дзе расце толькі пустазелле. Варта, каб аб гэтай справе моладзь падумала сур'ёзна і прыступіла да ўпарадкавання сваёй спартыўнай пляцоўкі.

**«Ярош»**
Гайнаўскі павет

## КАБ БЫЛО ВІДНА

Прэзідыум ГРН у **Пасынках** Бельскага павета ў мінулым годзе, пры дапамозе жыхароў вёсак, увёў на вуліцы ў вёсках **Катлы, Сакі** і **Белая** электрычнае святло. На гэта выдана 68 тыс. зл.

У гэтым годзе, правядзецца святло на вуліцах **Зубава, Пілікаў, Трашчотак, і Мякішаў.** Дакументацыя гатова, і патрэбна толькі дапамога гаспадароў.

(ак)

## АБ КАРМАВОЙ БАЗЕ

На Гайнаўшчыне не выконваюцца планы сельскагаспадарчай службы адносна будовы сіласных ям. У 1966 годзе з планаванай пабудовы 220 сіласных ям (на гэта была прызначана фінансавая дапамога) выканана 117. Яшчэ горш было з гэтым у мінулым годзе. План прадбачваў пабудову 200 сіласных ям, а пабудавана толькі 64. Падрыхтавана ў гэтых ямах каля 1129 тон сіласу (кішонкі). Як бачым, кармавая база для рагатай жывёлы не павялічваецца. Не выкарыстоўваюцца рацыянальна і сялянскія пашы.

На Гайнаўшчыне 1.205 га загаспадараваных паш. Але яны моцна занядбоўваюцца і каля 6 тыс. га паш рацыянальна не выкарыстоўваецца. У Гайнаўскім павеце налічваецца зараз 27.691 галоў быдла. Каб рацыянальна выкарыстоўваліся сялянскія пашы, была б магчымасць значнага павелічэння пагалоўя рагатай жывёлы, тым больш, што сенажаці выкарыстоўваюцца і даглядаюцца там задавальняюча.

**Віталіс Назарук**
Гайнаўка

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

,,Noc bez końca'' (bułg.), 16—17. ,,Dwa żebra Adama'' (polski), 18—19. ,,Rok Franka W.'' (polski), 20—21.

**Нараўка**

,,Nikt nie chciał umierać'' (radz.), ,,Skąpani w ogniu'' (polski), 17—21.

**Нарва**

,,Westerplatte'' (polski), ,,Tygrys lubi świeże mięso'' (franc.), 17—21.

**Чыжы**

,,Chawzburska ballada'' (radz.), ,,Trema'' (USA), 17—21.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

,,Kryptonim Nektar'' (polski), ,,Mętna woda'' (węgierski), 17—21.

**Орля**

,,Fanfan Tulipan'' (franc.), ,,Głosuję na miłość'' (jugosł.), 17—21.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

,,Film z czarującą dziewczyną'' (rumuński), ,,Żywot Mateusza'' (polski), 16—19.

**Міхалова**

,,Beata'' (polski), 16—17. ,,Falstaff'' (hiszpański), 18—19. ,,Sobótki'' (polski), 20—21.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

,,Lebiediew contra Lebiediew'' (radziecki), ,,Dr Fabryzus działa'' (NRD), 20—21.

**Ліпск**

,,Jutro Meksyk'' (polski), ,,Dzielnica kruków'' (szwedzki), 20—21.



**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 6957

